# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 36 (64) 10—23 лістапада 1993 г. Кошт 10 руб.


## Святкаванне ў Суражы

Старажытны Сураж днямі адзначыў 50-годдзе свайго вызвалення ад фашысцкай акупацыі. Колькі гадоў ваеннага ліхалецця пранеслася над гэтым гарадком! Яго знішчалі, спальвалі ворагі, але Сураж, нібыта казачны Фенікс, зноў адбудоўваўся. А якія прыгожыя, працалюбівыя і гасцінныя людзі жы-





вуць тут! І ніколі яны не скараліся перад ворагам. Ішлі ў густыя лясы, якіх тут шмат, і са зброяй у руках змагаліся. Так было і ў гады апошняй, самай жорсткай, самай бесчалавечнай вайны. Фашысты ў адказ на супраціўленне суражан амаль увесь гарадок знішчылі. Многіх расстралялі, звезлі ў лагер смерці. Астатнія пайшлі ў партызаны і разам з легендарным бацькам Мінаем (М. П. Шмыроў) грамілі ворага.

Як толькі войскі Чырвонай Арміі вызвалілі суражскую зямлю, людзі прыступілі да мірнай працы. Гарадок паўстаў з попелу. Вось толькі былы камуністычны рэжым так і не дазволіў аднавіць даваенную прамысловасць. Да гэтай пары так і не пабудаваны даўно абяцаны мост праз Заходнюю Дзвіну. Летам цераз раку перапраўляюцца на пароме, а вось увосень і вясной, калі ідзе крыгаход, рызыкуючы жыццём, перабіраюцца на лодках.

Але суражане вераць, што мост усё-такі злучыць два берагі. І як бы там ні было, а свята свайго вызвалення яны правялі цудоўна. У цэнтры Суража разгарнуўся кірмаш, а апоўдні ўсе сабраліся да брацкіх магілаў і аддалі даніну памяці загінуўшым у вайну. Святары над могілкамі прачыталі малітву, акрапілі святой вадой. Моладзь і сталыя людзі ўсклалі кветкі і вянкі, а салдаты Віцебскага гарнізона зрабілі салют.

А потым у Доме культуры эксперыментальнай базы імя Шмырова для ветэранаў адбыўся вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці раёна.

**На здымках:** моманты святкавання ў Суражы.

Тэкст і фота **А. Когаля.**

## *Дзяды*

Кажуць, Дзядоў шанавалі з паганства. Праз стагоддзі народ беларускі нясе аб іх Памяць. Захаваў ён яе і віхуры апошняя вайны, і падчас панавання змагароў за «светлую будучыню», што руйнавалі гэты стары Вечны свет нашых Дзядоў і нас саміх...

Фота **А. Лакоткі.**



### У ВЫДАННІ:



*Памятка пасажыру*

## Пакаранне

Апоўначы 18 кастрычніка машыніст дызель-цягніка «Віцебск—Бігосава» А. Казлоў каля станцыі Гараны згубіў свайго памочніка.

Як сведчыць у сваім тлумачэнні Казлоў, памочнік пайшоў ліквідаваць непаладкі ў сістэме тармазнога абсталявання і пры хуткасці 10—15 км у гадзіну паслізнуўся і выпаў праз адчыненыя дзверы. Алег Міхайлавіч, не звяртаючы ўвагі на адсутнасць калегі, спакойна паехаў далей да станцыі Бігосава. Памочнік праз нейкі час прыехаў туды на пасажырскім поездзе ў якасці пасажыра.

Пакаранне А. Казлоў атрымаў чыста сімвалічнае. Кіраўніцтва лакаматыўнага дэпо «Віцебск» пазбавіла яго 50% прэміяльных. Калі аналагічны выпадак здарыўся некалькі гадоў таму, іншаму машыністу прыйшлося папрацаваць памочнікам 3 месяцы. У некаторых з кіраўніцтва нават узнікла жаданне звольніць яго з чыгункі.

Магчыма, разгадка сімвалічнасці кары А. Казлова ў тым, што зусім нядаўна ён працаваў памочнікам начальніка дэпо па... бяспецы руху і, як кажуць, быў у той час надзвычай патрабавальным да падначаленых. Як бачым, адна справа кіраваць і зусім іншая самому працаваць.

Таму, пасажыры чыгуначнага транспарту, будзьце пільнымі ва ўсім!

**А. ІГНАЦЬЕЎ.**

## Мітынг памяці

Днямі ля сцен Віцебскага раённага дома культуры прайшоў мітынг памяці. Тут, у гэтым квартале, у гады вайны нацысты зрабілі гета, у якое сагналі мірных гараджан-яўрэяў. Не шкадавалі ні старых, ні малых. Усіх потым варварскі знішчылі. Адно за тое, што яны былі яўрэямі.

Мінула 50 год з той чорнай пары. Але толькі сёння мясцовыя яўрэі змаглі на месцы былога гета ўстанавіць памятны камень з мемарыяльнай дошкай. На ёй напісана: «Тут будзе ўстаноўлены мемарыяльны знак у памяць вязняў Віцебскага гета, ахвяр фашысцкага генацыду ў 1941—1944 г.г.» На жаль, ранейшыя кіраўнікі былога Саюза, пачынаючы з урада Сталіна, замоўчвалі гора яўрэяў. Камуністычная прапаганда старалася не расказваць аб гераізме воінаў-яўрэяў на фронце. Але прыйшоў другі час і цяпер жывыя змаглі ўшанаваць памяць аб загінуўшых, пакланіцца іх праху.

На мітынгу-рэквіеме па ахвярах фашызму выступілі дацэнт Віцебскага педінстытута М. Рыўкін, ветэран вайны У. Клічэўскі, намеснік старшыні гарвыканкама Л. Аленская, прызідэнт аб'яднання яўрэйскіх арганізацый Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Л. Левін і прадстаўнік міжнароднай яўрэйскай арганізацыі «Джойнт» Ш. Гером. Потым прысутныя запалілі ля камня свечкі смутку, праспявалі малітву.

Такі ж мітынг адбыўся ля вёскі Тулава. Тут у пачатку вайны былі расстраляны тысячы тутэйшых яўрэяў. На месцы іх масавага знішчэння таксама ўсталяваны камень з мемарыяльнай дошкай.

**На здымках:** моманты з мітынгу-рэквіема.

Тэкст і фота **А. Когаля.**





## Напярэдадні сесіі

З патрабаваннямі адстаўкі беларускага ўрада ды прызначэння новых выбараў не пазней вясны будучага года выступіў у тэлеграме, паслаай у парламент, віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары».

**Н. КІЛДЗІНГ.**

Наступны нумар газеты выйдзе 1 снежня 1993 г.

# ПАЛІГОН

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

і таму легкаверных было небагата. Іншыя знікалі, неўпрыкмет абапёршы сцяг на бліжняга. Хто фатаграфаваў сяброў на памяць, хто пляваўся, хто гуляў у пстрычкі, хто пазяхаў усёй пашчай, але пераважнай большасці прысутных, ад сціплай школьніцы з кветкамі да абазнанага «лабуха» з барабанам было «да барабана»—што гавораць, каго ўслаўляюць, да чаго заклікаюць...

Разумнейшыя ў гэты час сядзелі дома ля тэлевізара. Не грамадзянская дэманстрацыя ў сталіцах цікавіла, а вайсковы парад. Спачатку высокі вайсковы чын аб'язджаў збройныя шыхты і ўслед яму чулася «Гаў-гаў-гаў-гаў-гаў-гаў!» што пры нармальным вымаўленні значыла: «Здравия желаем, товарищ Маршал Советского Союза!» Паказвалі парад вайсковае тэхнікі; даўжэзныя ракеты нагадвалі тоўстыя каўбасы і гэтым падсвядома наталяўся апетыт тэлегледачоў.

У Віцебску яшчэ на падыходзе да плошчы выяўлялася абсалютная недапасаванасць гарадскіх «мацюгальнікаў» на слупах. Калі з аднаго чулася «Цепи народа-страдальца мы чтим», то ўжо з наступнага, ствараючы жахлівую какафонію—«Долго в цепях нас держали». Пэўна, «ланцуговы» сюжэт лепей удаўся б якому металёўцу з рок-гурта «Metallica» або « Sex Pistols». Чуліся то французскія «Марсельеза» з «Інтэрнацыяналам», то польская «Варшавянка». А што ж вы хацелі, спадарове? «Дудка беларуская» тады яшчэ спала...

У Віцебску пастаяць на плошчы не даводзілася, ісці па ёй—хвіліну, не болей. Мы, студэнты, хінуліся да правага боку, бліжэй да трыбуны: там стаяла тэлекамера, і кожны хацеў уторкнуцца, каб яго ў гэты час на экране ўбачылі родзічы і знаёмыя Крычалі «Ура-а!» На гэтым, уласна, канчалася тое, дзеля чаго нас прымушалі ахвяраваць сваім часам.

Пасля дэманстрацыі плошча-палігон нагадвала карціну «Пасля пабоішча Ігара Святаслававіча з палаўцамі». Палопаныя шарыкі, насоўкі, пабітыя бутэлькі, затаптаныя чырвоныя стужкі і нават... транспаранты, кінутыя кімсьці «тварам» уніз. Мы моўчкі ідзем і адчуваем сябе прусакамі (ладзяць у буржуйскае Амерыцы такія «прусачыныя забегі» па доўгай шчыліне). Бо злева суцэльная забудова, справа—ушчыльную падагнаныя адзін да аднаго «Ікарусы». Назад, супраць натоўпу не пойдзеш. Трэба занесці непатрэбныя ўжо цяжар у двухпавярховы будынак. Дзверы вузкія, праз іх уваходзяць і выходзяць. Вось дарогу перагарадзіў груваcткі партрэт малпаватай асобіны з Палітбюро... Туды яго! Несці на другі паверх? Хто хітрэйшы, кідае сваю зненавідную ношу тут жа, ля ганку. Finita!

А вось як скончылася святкаванне ў Дрэтуні: **«Пасля шэсця найбяднейшаму сялянству і рабочым было выдадзена каля 700 бясплатных абедаў... На вечарыне была пададзеная бясплатная гарбата, дзятве і бednякам выдаваліся падарункі. Святкаванне скончылася даволі позна. Агульнае ўражанне—самае ўсцешнае».**

Было чым цешыцца. Па ўзроўню эканамічнага і культурнага развіцця краіна займала адно з першых месцаў у свеце. Дрэтунь была буйным паселішчам і сабраць 1000 чалавек на пляцы было справай арганізацыі. Чым стала Дрэтунь і ўсе нашыя вёскі зараз, пасля шматгадовай вайны бальшавіцкае дзяржавы супраць сваіх сялян-карміцельцаў? Безаблічным палігонам, на які семдзесят шэсць гадоў нас абстрэльвалі цяжкімі ідэалагічнымі балванкамі. Толькі і застаецца зараз, што таксама цешыцца, ажыўляючы такія смяхотлівыя ўспаміны.

**Уладзімір КАСТУСЕНАК.**

*75 гадоў таму*

## Ліквідацыя паўстання ў губерні

Паўстанне ў Вазнясенскай воласці (Полацкага павета—**рэд.**) ліквідавана; раззбраенне заканчваецца; адабрана каля 1500 вінтовак, якія будуць адпраўлены са станцыі Расоны ў Віцебск. Адзін з верхаводаў паўстання расстраляны, пяць перададзены Надзвычайкаму, пяць абвешчаны па-за законам.

**«Известия Витебского губернского Совета крестьян. рабоч., красноарм., и батрацк. деп.», 23 лістапада 1918 г.**

## Свет вакол нас

● Нямецкі ўрад вырашыў, што ў будучым годзе датацыі на падтрымку эканомікі ўсходніх земляў вырастуць амаль на 1 мільярд марак—да 37,6 млрд. DM.

● За пяць апошніх гадоў лічба зарэгістраваных у Польшчы цэркваў і рэлігійных аб'яднанняў падвоілася. Зараз іх 90.

● Бюджэт НАСА ў гэтым годзе захаваўся на ўзроўні леташняга, і складае 14,3 млрд. долараў. Кіраўніцтва асацыяцыі мяркуе, што ў 1994 г. ён павялічыцца. Зараз НАСА выдзяляе каля сямі мільярдаў на доследы і распрацоўкі, 5 млрд. дол. расходуе на пілатаваныя касмічныя палёты, у тым ліку і ў караблях шматразавага выкарыстання, і 1,6 мільярда—на персанал і пускавыя пляцоўкі. Астатняя частка грошай ідзе на новыя збудаванні. Цяперашнія выдаткі НАСА складаюць каля 1% сумы федэральнага бюджэту, г. зн. значна знізіліся адносна максімальнага значэння ў 3,85 працэнта, дасягнутага ў 1964 годзе.

● Падчас першых сакавіцкіх паказаў мадэляў асеннезімняга сезона ў Мілане было бачна, што ў мадэльераў вызначаецца новы погляд на традыцыйнае зімняе паліто з добрага матэрыялу. Заканадаўцы моды ўсюды звярнуліся да гэтага віду адзення. Новы накірунак адразу ж падтрымалі з заказамі напагатове ўладальнікі крамаў. Цяпер модныя паліто, як правіла, шыракаполыя, даўжынёй, прынамсі, да шчыкалаткі. Прычына аднаўлення тэндэнцый моды—змяненне сілуэта ад строгага да мякка жаноцкага.

**Паводле паведамленняў заходніх мас медыяў падрыхтаваў М. Марудаў.**

*Па старонках тутэйшых газет*

# Заўвагі да некаторых меркаванняў пасла

У «Народным слове» 26 кастрычніка апублікавана інтэрв'ю з паслом Расіі ў нашай краіне І. Сапрыкіным. Хачу зрабіць свае суб'ектыўныя заўвагі грамадзяніна незалежнай дзяржавы Беларусь да некаторых выказванняў пасла.

Пасол: **«У Беларуси трудная история, нелегко развивалась ее государственность, но сегодня она признана, и с этим необходимо считаться».** Няхай не крыўдзіцца пасол і ўсе іншыя расіяне, але гісторыя ў Беларусі цяжкая, менавіта таму, што яе дзяржаўнасць у канцы XVIII стагоддзя была знішчана Расійскай імперыяй. Іменна па віне Расіі «нелегко развивалась государственность» Беларусі, гэта праўда гісторыі.

Пасол: **«Я считаю, что празднование битвы под Оршей—политизация незначительного факта в мировой истории и спекуляция чистой воды. Трагикомично отмечать дату, когда одно войско побило другое».**

Кожны мае права на сваю думку. Але, па логіцы пасла, трагікамічна таксама адзначаць перамогу рускага войска на Куліковым полі або Пятра І пад Палтавай, калі адно войска пабіла другое. І чаму такі «незначительный факт в мировой истории» вывучаўся як бліскучы прыклад ваеннага майстэрства ў вайсковых вучэльнях царскай Расіі?

Пасол: **«К личности Суворова я отношусь философски... Суворов подавлял русские крестьянские восстания. Но он был одним из величайших полководцев мира, и его наука побеждать помогла белорусам в 1812 и 1943—45 годах. Три или четыре партизанских отряда носили имя Суворова».**

Для сапраўдных патрыётаў Беларусі Суворaў—тое ж, што Батый або Тахтамыш для Расіі.

Пасол: **«Вся наша история была кровавой, нынешнее правительство и президент России не будут извиняться за русских царей и за Сталина».**

Кіраўніцтва ФРГ папрасіла прабачэння ў яўрэяў за генацыд падчас Другой сусветнай вайны. М. Гарбачоў прасіў выбачэння ў Польшчы за ахвяры Катыні. Зусім нядаўна ў час візіту ў Японію расійскі прэзідэнт афіцыйна прабачаўся за знішчэнне тысяч японскіх ваеннапалонных у Сібіры пасля вайны—прасіў прабачэння за Іосіфа Вісарыёнавіча. Пасол супярэчыць сам сабе: спачатку сцвярджае, што з дзяржавай Беларусь трэба лічыцца, потым заяўляе, што Расія не будзе прасіць даравальнасці за дзеянні цароў і Сталіна. Японія—зразумела, не Беларусь. І Расія ніколі не лічылася з намі, як з незалежнай дзяржавай. А ці будзе лічыцца ў будучым, залежыць толькі ад самаго беларускага народа, у якога, па словах пасла, «свои черты характера, свои обычаи, своя культура, свой язык». І сваё пачуццё годнасці.

**А. ЯСНЫ.**

**Ад рэдакцыі:** Звычайна лічыцца, што думкі пасла далёка не разыходзяцца з меркаваннямі кіраўніцтва дзяржавы, якую ён прадстаўляе. Калі ж мы не маем рацыі, то тады словы пана Сапрыкіна—толькі погляд прыватнай асобы...

# Пратэст

Пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі пан Ігар Сапрыкін даў інтэрв'ю карэспандэнту газеты Віцебскага аблсавета «Народнае слова», якое змешчана ў нумары за 26 кастрычніка 1993 года. Пасол лічыць, што «празднование битвы под Оршей—политизация незначительного факта в мировой истории и спекуляция чистой воды. Трагикомично отмечать дату, когда одно войско побило другое».

Мы адзначаем, што пан Сапрыкін выказаў сваё ўласнае меркаванне ў вельмі некарэктнай форме. Мы ўспрымаем выказванне І. Сапрыкіна як здзек над памяццю слаўных сыноў беларускага народа, якія збройна абаранялі сваю Айчыну ад прыхадняў, як здзек над памяццю пра кожнага бязвіннага загінуўшага ад рукі агрэсара беларуса.

Пан пасол абразіў нашу нацыянальную годнасць.

Мы пратэстуем супраць некарэктных паводзінаў пана Ігара Сапрыкіна і ў будучым жадаем бачыць надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Расійскай Федэрацыі ў Беларусі асобай адукаванай і больш уважлівай да нацыянальных пачуццяў грамадзян Беларусі, карэктнай у ацэнках падзеяў нашай трагічнай і шматпакутнай гісторыі.

**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», Віцебская Рада.**

**3 лістапада 1993 г.**

P.S. **Аналагічныя пратэсты накіраваны прэзідэнту Расіі, Генеральнаму пракурору Беларусі, міністру замежных спраў Беларусі.**




## Папаўняюцца шэрагі

Як памятаюць чытачы «Выбара», у Віцебску ўтворана філія Беларускага згуртавання вайскоўцаў. На мінулым тыдні адбыўся арганізацыйны сход. Абраны намеснік старшыні, прынятыя новыя сябры. У БЗВ могуць уступіць грамадзяне, якія знаходзяцца на вайсковым уліку, прычым не толькі ўдзельнікі палітычных партый і рухаў, але і беспартыйныя, якія лічаць сябе патрыётамі Беларусі і гатовыя садзейнічаць станаўленню беларускага войска.

**Старшыня Віцебскай філіі БЗВ У. ПЛЕШЧАНКА.**

